№ 36604


# БЮЛЕТЭНЬ

## Соймавага Клюбу Беларуск. Сялянска-Работніцкае Грамады

№ 9 | Вільня, Субота, 17-га красавіка 1926 г. | № 9


# ПАЛІТЫЧНАЯ ПЛЯТФОРМА

## Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

### I. Самаазначэньне народаў і міжнародная солідарнасьць працоўных.

1. Увесь істнуючы лад паміж дзяржавамі і народамі павінен быць перабудованы на аснове поўнага самаазначэньня народаў.

2. Стоючы на груньце самаазначэньня народаў, Б. С.-Р. Грамада лічыць, што ўсе беларускія землі павінны быць злучаны і аб'яднаны ў незалежнай рэспубліцы пад уладаю сялян і работнікаў.

3. Разам з тым Б. С.-Р. Грамада жыва падтрымоўвае сучаснае імкненьне працоўных мас да стварэньня цеснага соцыялістычнага саюзу эўропэйскіх народаў.

4. Згодна з гэтым Б. С.-Р. Грамада вядзе сваю працу ў духу міжнароднай солідарнасьці працоўных.

### II. Саюз сялян і работнікаў.

5. Вызваленьне ўсяго працоўнага народу спад ярма капіталу і нацыянальнага ўціску—гэта агульная мэта і супольная справа сялян і работнікаў. Зьдзейсьненьне гэтага магчыма толькі ў цесным саюзе сялян і работнікаў.

6. Працоўная інтэлігэнцыя ў сваей лепшай і здаравейшай частцы павінна прылучыцца да такога саюзу сялян і работнікаў, знаходзячы тут шырокі грунт да прылажэньня сваіх творчых сілаў.

### III. Сялянска-Работніцкі ўрад.

7. Толькі цесны саюз сялян і работнікаў можа ўстанавіць сялянска-работніцкі ўрад.

Толькі работніцка-сялянскі ўрад зможа даць прыгнечаным народам волю, сялянам зямлю, работнікам працу і толькі ён зможа перабудаваць народную гаспадарку і ўвесь дзяржаўны і грамадзкі лад на больш разумных і справядлівых падставах ды павясьці народ да лепшае будучыны.

* * *

Вядучы барацьбу за самаазначэньне народаў, за сялянска-работніцкі ўрад, Б. С.-Р. Грамада разам з тым нясупынна змагаецца за самыя палючыя і штодзенныя патрэбы сялян і работнікаў: за зямлю бяз выкупу, процiў непамерных падаткаў, за абарону работніцкіх законаў, за родную школу, за палітычныя свабоды і інш.

* * *

### IV. Зямля сялянам бяз выкупу.

8. Усе абшарніцкія і духоўныя землі павінны быць бяз выкупу адабраны ад паноў-абшарнікаў і духавенства і разам з казеннымі праз сялянскія камітэты падзелены паміж мяйсцовымі сялянамі і парабкамі бясплатна.

### V. Скасаваньне асадніцтва.

9. Б. С.-Р. Грамада дамагаецца скасаваньня як ваеннага, так і цывільнага асадніцтва.

Увесь зямельны запас Заходняе Беларусі павінен быць падзелены паміж мяйсцовымі сялянамі і парабкамі.

### VI. Упарадкаваньне зямлі.

10. Б. С.-Р. Грамада падтрымоўвывае перасяленьне сялян з вёсак на хутары або на пасёлкі, але толькі пры той умове, што малазямельным зробіцца прырэзка зямлі, каб яны маглі вясьці запраўды самастойную гаспадарку.

11. Побач з гэтым Б. С.-Р. Грамада дамагаецца шырокай мэліорацыі—(а перадусім асушкі балот і лугоў) на скарбовы кошт водле шырокага дзяржаўнага пляну.

12. На заспадараваньне пры пераходзе на хутары і пры парцэляцыі павінна быць дадзена патрэбная помач — грашыма, інвэнтарам, будаўлянымі матэрыяламі.

13. Б. С.-Р. Грамада дамагаецца шырокай агранамічнай помачы і таннага крэдыту для сялянства.

14. Усе работы па земляўпарадкаваньню павінны быць аднесены на скарбовы кошт.

### VII. Лясы і воды.

15. Таксама як землі, усе дворныя і духоўныя лясы і воды павінны перайсьці на ўласнасьць дзяржавы.

16. Грамада дабіваецца, каб сяляне былі забясьпечаны лесам на будоўлю і апал, а таксама пашай для жывёлы.

17. Б. С. Р. Грамада вядзе барацьбу процiў такога касаваньня сэрвітутаў, што крыўдзіць сялян на карысьць паноў-абшарнікаў.

### VIII. Падаткі.

18. Падаткі гнятуць працоўны народ невынасімым цяжарам. Яны разложаны несправядліва і зьбіраюцца спосабам нязносна цяжкім і руйнуючым для сялянства.

Б. С.-Р. Грамада дабіваецца, каб падаткі былі пераложаны на пануючыя заможныя клясы, а з беззямельных, малазямельных да серадняков былі зусім зьнятыя.

Мераю для ападаткаваньня павінен быць даход.

19. Б. С.-Р. Грамада дамагаецца, каб былі скасаваны ўсе пасярэдныя (ўкосныя) падаткі, асабліва-ж налогі на прадметы першае патрэбы.

20. Незалежна ад гэтага Б. С.-Р. Грамада дамагаецца безадкладнага ўвядзеньня адзінага падатку, — значыць, каб падатак вызначаўся раз у год на адным платным наказе з разлажэньнем на раты і з выразным вызначэньнем тэрміну.

### IX. Работніцкія законы.

21. Б. С.-Р. Грамада бароніць усе соцыяльныя заваёвы работнікаў. Паміж іншым яна вядзе барацьбу за: 1) 8-гадзінны рабочы дзень, нядзельны адпачынак і платныя водпускі, 2) забарону працы дзяцей і палепшаньне санітарных варункаў працы на фабрыках, 3) мінімум заработнай платы, 4) дзяржаўнае страхаваньне работнікаў гораду і вёскі ад хваробы, калецтва, безрабоцьця і на старасьць; 5) свабоду стачак і поўную свабоду профэсіональных саюзаў, 6) законнае прызнаньне фабрычных работніцкіх камітэтаў з правам учасьця ў наглядзе за прадукцыяй.

22. Уважаючы, што кажнаму работніку вёскі і гораду дзяржава павінна забясьпечыць працу і заработак, Б. С.-Р. Грамада ў часе сучаснага цяжкога безрабоцьця ў горадзе і вёсцы дамагаецца:

а) выплаты безработным гораду і вёскі дапамог у разьмеры пражытачнага мінімума;

б) безадкладнай арганізацыі шырокіх публічных работ;

в) арганізацыі камітэтаў безработных.

### X. Коопэрацыя.

23. Б. С.-Р. Грамада вялікую ўвагу зьвяртае на пашырэньне спажывецкай, вытворчай і крэдытнай коопэрацыі сярод сялян і работнікаў, уважаючы, што яна дае магчымасьць працоўнаму народу бараніцца ад дарагоўлі і спэкуляцыі, ды прывучае яго да арганізаванай самадзейнасьці. Вядучы барацьбу процiў падпарадкаваньня коопэрацыі інтэрэсам абшарнікаў і капіталістаў, Б. С.-Р. Грамада дамагаецца для коопэрацыі шырокага дзяржаўнага крэдыту.

### XI. Самаўрады.

24. Усе самаўрады гмінныя, павятовыя і ваяводзкія павінны выбірацца агульным галасаваньнем усяго працоўнага народу, а не назначацца адміністрацыяй (старостай, ваяводай).

Самаўрады павінны быць унезалежнены ад адміністрацыі, а круг дзеяльнасьці іх павінен быць пашыраны.

25. Адною з важнейшых галін самаўрадавай працы павінна быць забясьпечаньне вёсцы бясплатнай мэдыцынскай помачы, забясьпечаньне апекі над сіротамі, бездаглядными калекамі і старымі, а також забясьпечаньне неабходным матар'ялам (з грашоваю дапамогаю ад скарбу) на адбудову ўсіх зьнішчаных падчас вайны гаспадарак.

26. Б. С.-Р. Грамада выступае процiў усялякіх самаўрадавых, ці іншых натуральных павіннасьцяў.

### XII. Войска, паліцыя, адміністрацыя.

27. Б. С.-Р. Грамада дабіваецца скарочаньня службы ў войску і значнага паменьшаньня войска, паліцыі і адміністрацыі, каб такім спосабам паменшыць ападаткаваньне насяленьня і павялічыць выдаткі на культурныя патрэбы.

28. Б. С.-Р. Грамада вядзе барацьбу з палітыкай мілітарызму і імкнецца да замены сталай арміі народнай міліцыяй.

29. Б. С.-Р. Грамада змагаецца, каб паліцыя і ўрадоўцы, не выключаючы й міністраў, адказвалі перад законам за службовыя надужыцьці.

Паміж іншым Б. С.-Р. Грамада дамагаецца скасаваньня палітычнай паліцыі і вядзе барацьбу з сыстэмаю біцьця і правакацыі.

### XIII. Палітычныя свабоды.

30. Б. С. Р. Грамада змагаецца за поўную свабоду сходаў, друку і слова, за свабоду палітычных і эканамічных арганізацыяў для сялян, работнікаў і працоўнае інтэлігэнцыі.

31. Б. С.-Р. Грамада вядзе барацьбу процiў усялякіх пісаных і няпісаных прывілегіяў для пануючых клясаў — абшарнікаў і буржуазіі.

32. Б. С.-Р. Грамада змагаецца з рознымі спробамі пагоршыць істнуючыя законы (напрыклад, выбарны закон).

33. Б. С.-Р. Грамада дабіваецца поўнае свабоды ўстраіваць веча і іншыя сходы.

34. Б. С.-Р. Грамада дамагаецца скасаваньня вынятковага стану і даразных судоў, істнуючых на Заходняй Беларусі.

35. Б. С.-Р. Грамада дамагаецца амністыі для ўсіх палітычных.

36. Б. С. Р. Грамада дамагаецца права свабоднай апекі над палітычнымі вязьнямі.

37. Б. С.-Р. Грамада дамагаецца скасаваньня кары сьмерці.

### XIV. Суды.

38. Б. С.-Р. Грамада стаіць за народны суд, які мае выбірацца самым народам з мяйсцовых людзей, а тымчасам дамагаецца безадкладнага ўвядзеньня суду прысяжных.

39. Грамада вядзе барацьбу процiў сыстэмы тайных судоў („пры зачыненых дзьвярох“) і бароніць незалежнасьць судоў ад уплываў палітычнай паліцыі.

### XV. Школа.

40. Б. С.-Р. Грамада стаіць за ўвядзеньне адзінай працоўнай школы з бясплатным навучаньнем — на кошт дзяржавы — для працоўных элемэнтаў (сялян, работнікаў, працоўнае інтэлігэнцыі).

41. Б. С.-Р. Грамада дамагаецца пашырэньня агранамічнага і наагул профэсыянальна-тэхнічнага навучаньня.

42. Навука ўва ўсіх дзяржаўных школах павінна вясьціся ў роднай мове вучняў.

43. Б. С.-Р. Грамада выступае процiў таго, што школьныя ўлады вымагаюць ад вучыцялёў паліцэйскіх пасьведчаньняў маральнасьці (świadectwo moralności) пры паступленьні на службу. Гэта бяспраўна — бяз суду — абмяжоўвае правы грамадзян вучыцялёў і робіць іх залежнымі ад самаволі палітычнае паліцыі.

### XVI. Мова.

44. Кожнай нацыянальнасьці павінна быць забясьпечана магчыма найшырэйшае права карыстацца ўласнаю моваю ў дзяржаўным і грамадзкім жыцьці.

45. Б. С.-Р. Грамада будзе змагацца за поўную свабоду пашырэньня культурна-прасьветнае дзейнасьці ў роднай мове: бібліятэк, чытальняў, краязнаўчых гурткоў, тэатраў і т. д.

### XVII. Рэлігія.

46. Прызнаючы поўную свабоду сумленьня, Б. С.-Р. Грамада стаіць за аддзяленьне царкві (касьцёлу) ад дзяржавы і ад палітыкі.

47. Б. С.-Р. Грамада змагаецца з выкарыставаньнем веры—царквы ці касьцёлу—да палітычных мэтаў, напрыклад дзеля падтрыманьня пануючых клясаў або дзеля полёнізацыі ці русыфікацыі.

48. Б. С.-Р. Грамада будзе таксама змагацца з сеяньнем рэлігійнае ці расавае барацьбы і ненавісьці.

### XVII. Проціў нацыянальнага ўціску і руйнаваньня краю.

49. Б. С.-Р. Грамада дамагаецца заправўдных роўных правоў у жыцьці — а ня толькі на паперы—для ўсіх грамадзян, незалежна ад веры ці нацыянальнасьці.

Паміж іншым Грамада дамагаецца: а) безадкладнага прызнаньня правоў грамадзянства (obywatelstwo) для ўсіх жыхароў Заходняе Беларусі;

б) інвалідзкае рэнты для ўсіх ваенных інвалідаў, іхных удоў і сірот;

в) свабоднага доступу на ўрадовую службу для мяйсцовых людзей, незалежна ад веры, нацыянальнасьці ці палітычных поглядаў.

50. Вядучы барацьбу проціў непамернага вызыску нашага краю так польскімі як і заграмічнымі капіталістымі, асабліва-ж проціў рабунковага вырубаньня і распрадажы нашага прыроднага багацьця, лясоў, проціў распрадажы фабрык і абарудаваньня заграніцу, вядучы барацьбу з усімі відамі колёнізацыі Заходняе Беларусі, Грамада дамагаецца поўнага разьвіцьця ўсіх гаспадарчых сіл і магчымасьцей краю.

* * *

51. Ідучы да сваіх мэтаў, Б. С.-Р. Грамада карыстаецца шляхам легальнай, законнай барацьбы на аснове конституцыі і права.

# Прапазыцыя № 36

**паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ў справе зьмены абавязваючых датыхчас уставаў аб запамозе ваенным інвалідам і іх сем'ям і падтрыманьні сем'яў забітых і памершых жаўнераў і інвалідаў.**

Дзікая ў сваіх канечных рэзультатах сусьветная вайна, што вялася выключна ў інтэрэсах капіталізму, стала новай крыніцай нуды і няшчасьця для працоўнай клясы. У часе вайны цэлыя арміі сялян і работнікаў, адзетых у мундзіры, пазбаўленых свае волі, падзеленых, як рэчы, паводле ваенных часьцяў, — былі мясам для гарматаў і прыцэлам для снарадаў. Аддавалі яны сваю кроў і жыцьцё інтэрэсам вялікага капіталу, гінулі, каб здабыць для сваіх капіталістаў — сваіх паразітаў — новыя рынкі збытку, новыя гандлёвыя магчымасьці, новыя плятформы эксплёатацыі. Аблудная буржуазія, хочучы здабыць сабе ваюючыя за яе інтэрэсы масы, ня скупячыся, карміла іх абяцанкамі, малявала перад абаламучанымі масамі пэрспэктывы волі і дабрабыту пасьля вайны, а інвалідам і асірочаным дзецям забітых жаўнераў абяцала поўнае абясьпячэньне іх, праз надзяленьне іх зямлёй і выданьнем ім грашовай запамогі. Але, як скончылася вайна, якая насыціла лакомыя апэтыты абжорчага і вечна прагнучага капіталу, то аказалася, што ўсе гэтыя абяцанкі былі толькі звычайным ашуканствам. Шырокім працоўным масам гэта вайна прынесла толькі большую нуду, няшчасьце, калецтва і жабрачы кій. Тыя, якім ня ўсьпелі высмактаць крыві і адабраць здароўя на полі бітвы, нясуць цяпер цяжар непамерных падаткаў, павялічанага нацыянальнага і клясавага ўціску, агульную нуду, даражызну і безрабоцьце. А беспасярэднія ахвяры вайны, г. знач. ваенныя інваліды і сем'і забітых на вайне жаўнераў пакінуты на лёс нуды і галоднай сьмерці.

Устаў — з дня 18 сакавіка 1921 г. аб забясьпечаньні ваенных інвалідаў і іх сям'яў, а таксама аб забясьпечаньні сем'яў, застаўшыхся па забітых жаўнерах — разам з дапаўненьнем з дня 4 жніўня 1922 г. зьяўляецца толькі насьмешкай з нуды шырокіх інвалідзкіх масаў. Перадусім гэта ёсьць ненармальнае рабеньне ашчаднасьці ў адносінах да інвалідаў, якія не ашчадзілі на палёх бойкі найдаражэйшых сваіх багацьцяў — бо крыві здароўя і жыцьця. Ашчаднасьці, стасованыя да іх урадуючымі клясамі, выражаюцца ня толькі вызначэньнем інвалідам і іх сем'ям сьмешна-малых рэнтаў. — Увесь гэты ўстаў — гэта ёсьць зручнае ўгрупаваньне фразаў і параграфаў, сабраных разам, каб абмяжаваць і паменшыць навет тыя ужо прызнаныя інвалідам ахлапкі.

Перадусім — гэты устаў уводзіць падзел, паводле часу і месца службы, кваліфікуючы гэтак інвалідаў на „маючых права“ і „ня маючых яго“ на атрыманьне забесьпячэньня. Потым — путае свае пастанаўленьні радам бюракратычных фармальнасьцяў — дзе заходзіць так далёка, што не бярэ пад увагу пратэнсіяў тых інвалідаў, што зьявіліся пасьля азначанага часу. Навет у самым разьдзяленьні рэнтаў уведзены розьніцы і агранічэньні а іменна ўстаў прызнае засаднічую інвалідзкую рэнту і „кваліфікацыйны дадатак“, празначаны для тых, што мелі „большую профэсіянальную здольнасць або асьвету“. Шырокія інвалідзкія масы, інтэрэсы якіх рэпрэзэнтуюць інвалідзкія арганізацыі і сходы—зусім тут абмінуты, як пры рэгулеваньні вышэй памянутага ўставу, таксама і пры іх выконваньні. — Ці — папросту кажучы — ўвесь гэты ганебны ўстаў зьяўляецца нуднай ахлапкай, накінутай шырокім інвалідзкім масам у відзе жабрацкай ахвяры. Вырашэньне справы — аб ступені патраты здольнасьці да працы належыць выключна да вайскова-дахторскай камісіі без прадстаўнікаў інвалідзкіх арганізацыяў. Павярхоўнасьць і нясумленная „ўсёроўнасьць“ гэтых камісіяў да інвалідаў — агульна ведамы.

Шырокія інвалідзкія масы з абурэньнем адкідаюць гэты факт „панскай ласкі“, якім абдарыў яго Урад ў відзе абавязваючага сягоньня ўставу аб інвалідах. Перадусім пратэстуе проці ўвядзеньня якіх-небудзь надзелаў паводле часу і месца службы ў войску, што зьяўляецца выражэньнем нацыяналістычнай палітыкі буржуазна-капіталістычнай большасьці,—ударам, напраўленым у гэт. зван. „нацыянальныя меншасьці“.

Шырокія працоўныя масы ўсіх засяляючых цяпер Польшчу нацыянальнасьцяў засьцілалі трупамі і залівалі рэчкамі крыві сваіх сыноў усе палі ўва ўсе мамэнты гэтай агіднай сусьветнай рэзьні. З абурэньнем пратэстуем проці ўстаўляньня гэтай пралітай крыві ў рамкі якой-небудзь кваліфікацыі і дамагаемся належнага поўнага і роўнага забесьпячэньня ваенных інвалідаў і іх сем'яў, а таксама і сем'яў забітых на вайне жаўнераў без разьдзяляньня іх паводле часу і армій, у якіх служылі.

Таксама пратэстуем проці катэгарычнага вызначэньня сроку для падачы пратэнсіі аб забесьпячэньні. А іменна § 24 уставу з дня 18 сакавіка 1921 г. пастанаўляе, што пратэнсіі мусяць быць пададзены перад тым, як міне 1 год ад часу, як інвалід пакінуў ваенную службу.

Гэтая пастанова зьўляецца злосным і сьвядомым імкненьнем пазбавіць цэлы рад ваенных інвалідаў права на забесьпячэньне, — зьяўляецца звычайным рабеньнем ашчаднасьці коштам нуды інвалідаў. Удар гэты напраўлены — як звыкле — перадусім проці гэтак званых нацыянальных меншасьцяў. Найлепшым прыкладам гэтага зьяўляецца застасаваньне гэтага ўставу на землях Заходняй Беларусі. Інваліды-беларусы — гэта, лічыць, выключна сяляне, а беларускія вёскі часта вельмі далёка знаходзяцца ад местаў і наагул маюць трудную лучнасьць з местамі і цэнтрамі.

Пры гэтакіх абставінах усялякія весткі і загады ўлады даходзяць да вёскі з труднасьцяй і з вялікім спазьненьнем, а часта і зусім не даходзяць. У даным выпадку г. зн. пры рэгістрацыі ваенных інвалідаў беларуская вясковая люднасьць была пазбаўлена магчымасьці зарэгістраваньня перадусім таму, што ў большасьці выпадкаў адпаведныя загады ня былі агалошаны і расклеяны ў гмінах, а апрача таго люднасьць была ўведзена ў непаразуменьне дзейнасьцяй г. зв. вайсковых француcкіх місіяў, якія вялі ад сябе паміж іншым і рэгістрацыю ваенных інвалідаў. Потым аказалася, што гэтыя місіі не аддалі польскай уладзе зробленых ею рэгістрацыйных матэр'ялаў, а яшчэ горай — загубілі цэлы рад дакумэнтаў, што, пры пануючай ў Польшчы бюракратычнай сыстэме, пазбавіла многіх інвалідаў права карыстаньня дапамогай. У рэзультаце, аднак, 90% інвалідаў у Заходняй Беларусі засталіся пазбаўлены права карыстацца ўставам аб дапамозе.

Дамагаемся для ўсіх бяз выняткаў ваенных інвалідаў і іх сем'яў, а таксама для сем'яў забітых на вайне жаўнераў уставовага забесьпячэньня ў межах пражыцьцёвага мінімума, нязьвязанага ніякімі правіламі выкрунтасавых параграфаў, лячэньня і вылечваньня хворых інвалідаў выключна на кошт дзяржавы і ўдзелу прадстаўнікоў інвалідаў і іх арганізацыяў пры выкананьні ўставу.

Дзеля вышэйшага ніжэйпадпісаныя падаюць прапазыцыю:

Высокій Сойм ухваліць пададзены тут праект-уставу.

Варшава 22. III. 1926 г.

### УСТАЎ

аб зьмене Уставу з дня 18 сакавіка 1921 году аб забесьпячэньні ваенных інвалідаў і іх сем'яў, а таксама і сем'яў па забітых на вайне і памёршых, сьмерць якіх знаходзіцца ў прычыннай лучнасьці са службай у войску, а таксама Уставу з дня 4 жніўня 1922 г., зьмяняючага некаторыя пастановы Уставу з дня 18 сакавіка 1921 г. і Уставу аб забесьпячэньні бюджэтнай раўнавагі са сьнежня 1925 году.

**§ 1.** У § 2 Уставу з дня 18 сакавіка 1921 г. вычырківаюцца пункты a), b), c) i d); пасьля слоў: „з прычыны службы“ дадаецца: „вайсковай незалежна ад часу і арміі, у якой служылі“.

**§ 2.** У § 4 Уставу з дня 18. III. 1921 г. пункты 2 да 6 вычырківаюцца.

**§ 3.** У § 7 Уставу з дня 18. III. 1921 г. пасьля слоў: „у выпадку адкліканьня вырашаюць“ дадаецца: пры ўдзеле прадстаўніка інвалідцкай арганізацыі“ і вычырківаюцца словы: „з тым аднак, што калі пратэнсіі акажуцца беспадстаўнымі, — паносіць ён усе зьвязаныя з гэтым „badaniem“ кошты“.

**§ 4.** ~~У~~ § 8 Уставу з дня 18. III. 1926 г. вычырківаюцца словы: „500 марак“, а на іх месца дадаецца: „150 злотых“, а таксама пасьля слова „месячна“ дадаецца: бяручы пад увагу ўзрост дарагавізны і стасуючы паказальнік дарагавізны“.

**§ 5.** § 10 Уставу з дня 18. III. 1921 году вычырківаецца.

**§ 6.** У § 12 Уставу з дня 18. III. 1926 году пасьля слоў: „з малой сям'ей“ вычырківаецца: „19“, а на тое мейсца дадаецца: „20“; пасьля слоў: „з сярэдняй сям'ей“ вычырківаецца „22“, на тое мейсца дадаецца „25“; пасьля слоў: „з вялікай сям'ей“ вычырківаецца: „25“, а на тое мейсца дадаецца: „30“.

**§ 7.** У § 14 Уставу з дня 18. III. 1921 году вычырківаюцца ў першым сказе словы: „калі жанімскі саюз“ вычырківаюцца пункты а) і в) і пасьля слоў: „кваліфікацыйнага дадатку інвалідаў“, а вычырківаецца „50%“, а на тое мейсца дадаецца: „100%“.

**§ 8.** У § 20 Уставу з дня 18. III. 1921 году пасьля слоў: „атрымоўваюць яны забесьпячэньне ў высокасьці“ вычырківаецца „30%“, а на тое мейсца дадаецца: „100%“; пасьля слоў: „для застаўшагася аднага з бацькоў“ вычырківаецца „20%“, а на тое мейсца дадаецца: „70%“.

**§ 9.** У § 25 Уставу з дня 18. III. 1921 году вычырківаецца пункт в).

**§ 10.** У § 29 Уставу з дня 18. III. 1921 году пасьля слоў: „якую атрымоўваюць множачы“ вычырківаюцца словы „6-цёх месячна“, а натое мейсца дадаецца: „10-цёх месячна“.

**§ 11.** У § 33 Уставу з дня 18. III. 1921 году вычырківаецца цэлая частка, пачынаючы ад слоў: „аж да 4 тыдняў“ і канчаючы славамі: „пры 100% патраце заробкавай здольнасьці“.

**§ 12** У § 34 Уставу з дня 18. III. 1921 году вычырківаецца ўся канцавая частка ад слоў: „калі дакажуць, што хвароба“...

**§ 13.** У § 35 Уставу з дня 18. III. 1921 году вычырківаецца ўвесь канцавы сказ, а на тое мейсца дадаецца: „Дзяржава плаціць за інваліда да касы хворых“.

**§ 14.** У § 47 Уставу з дня 18. III. 1921 году словы: „адзін год“ замяняюцца на: „два годы“, а словы: „двох гадоў“ — на словы: „трох гадоў“.

**§ 15.** § 2 Уставу з дня 4. VIII. 1922 году вычырківаецца.

**§ 16.** § 4 Уставу з дня 18. III. 1921 г. атрымоўвае канцовую частку гэтакага зьместу: „упаважненыя да адтрыманьня інвалідзкай рэнты згодна з § 1 Уставу з дня 18. III. 1921 г., якія да гэтай пары не зарэгістравалі сваіх пратэнсіяў і з тае прычыны маюць права зноў зарэгістравацца ў працягу 1 году ад часу ўваходу ў жыцьцё гэтага Уставу.

**§ 17.** У § 5 Уставу з дня 4. VIII. 1922 году пасьля слоў: „падлягаючыя ападаткаваньню“ вычырківаецца слова: „двохкратна“, а на тое мейсца дадаецца слова: „трыкратна“; пасьля слоў: „даход асобы перавышае“ дадаецца „двохкратна“.

**§ 18.** § 11 Уставу з дня 4. VIII. 1922 году вычырківаецца.

**§ 19.** § 12 Уставу з дня 4. VIII. 1922 году вычырківаецца.

**§ 20** У § 15 Уставу з дня 4. VIII. 1922 году пасьля слоў: „або грашыма ад“ замяняюцца словы: „ад 100.000 да 1.000.000 марак“ на словы: „ад 200 да 2000 злотых, прымаючы пад увагу адпаведны множнік у выпадку ўзросту дарагавізны“.

**§ 21.** §§ 10, 11, 12, 13, 14 і 21 Уставу са сьнежня 1925 г. аб забесьпячэньні бюджэтнай раўнавагі вычырківаюцца.

**§ 22.** У § 24 Уставу аб забесьпячэньні бюджэтнай раўнавагі вычырківаецца апошні сказ.

**§ 23.** Гэты ўстаў уваходзіць у жыцьцё са дня яго апублікаваньня.

# Інтэрпэляцыя

**дэпутата П. Мятлы і таварышаў з Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Скарбу ў справе няслушна вызначанай сялянам в. Кубеляўшчызна, Нова-Пагостскай гм., Дзісьненскага пав. штамплёвай аплаты.**

Як падаткавая сыстэма, так сыстэма скарбовых аплатаў, практыкованая вызначаючаю ўладаю органаў Міністэрства Скарбу адзначаецца яўнай несправядлівасьцяй, якая перадусім ськівавана проціў беларускага сялянства. Скарбовыя ўрады і пакліканыя імі камісіі стараюцца ўсялякія падатковыя цяжары і скарбовыя аплаты пераваліваць на бяднейшую частку грамадзянства — на беларускае сялянства.

Канкрэтным прыкладам гэтага зьяўляецца наступны факт.

Сяляне в. Кубяляўшчызна, Нова-Пагостскай гм., Дзісьненскага пав., Сьцяпан і Вінцэнты Ласкоўскія ў 1921 годзе закупілі па 10 дзесяцін высекі з-пад высечанага лесу з двора Пястуны. Закупленая зямля, дзякуючы свайму характару: пяскі, балота і зарасьці не надаецца пад вырабу і служаць толькі пасьвішчам.

У лучнасьці з актам купчы сяляне ў сваім часе аплацілі ўсе вымаганыя скарбовыя аплаты. Аднак паміма гэтага ў 1925 годзе Скарбовы ўрад у Глыбокім прыслаў сялянам „nakaz płatniczy“, плаціць у скарбовую касу штамплёвую аплату ў суме 110 злотых і 1 грош—Сцяпану Ласкоўскаму і 113 злотых 66 грошай — Вінцэнту Ласкоўскаму. Дзеля таго, што закупленая сялянамі зямля ня можа абрабляцца і таму лічыцца зямлёй мала-

вартай, сяляне падалі просьбу Скарбоваму ўраду, просячы зьняць наложаныя на іх штамплёвыя аплаты. Да просьбы сяляне залучылі пасьведчаньне гмінага Ураду, што купленая зямля не зьяўляецца абрабляючайся зямлёй. — Дзеля таго, што Скарбовы Урад у Глыбокім ня мог вырашыць гэтай справы, сяляне падалі другую просьбу ў Скарбовую Управу (Ізбу) у Вільні. Скарбовая Управа замест таго, каб сумленна разглядзець гэтую справу, — толькі фармальна вырашыла накладаючы на сялян працэнты за прасрочаньне. Гэткім чынам паводле паведамленьня 16. XI. 25 г. паданага гмінай штамплёвы падатак ужо раўняецца ў Сьц. Ласкоўскага 145 зл. а ў Вінцэнтага Ласкоўскага — 142 зл.

Сяляне ня маюць ніякіх крыніц, каб пакрыць гэтую аплату, бо аплаты гэтыя нават не раўняюцца вартасьці купленай зямлі, і тэндэнцыйна павышаны. Камісія „знатакоў“, што была паклікана Скарбовым Урадам для ацэнкі зямлі, складалася з прадстаўнікоў вялікай уласнасьці і таму ацэнка зроблена з крыўдай для сялян.

Доказам гэтай тэндэнцэйнасьці служыць іншы факт. Камісія „знатакоў“ у лучнасьці з парцэляцыяй двара Рундполь, Мікалаеўскай гм. зрабіла гэткую ацэнку дзялянак зямлі.

Цэнтр двара Рундполь разам з будынкамі на 3.887 зл., штамплёвыя аплаты вызначаны ў суме 233 зл. 22 гр. і цэнтр хвальварку ацанілі на 3400 зл. — аплаты-ж штамплёвыя вызначылі ў суме 204 зл; зямлю-жа значна горшую, далейшую ад двора,— высекі,— бяз ніякага будынку ацанілі у 4.722 зл. 90 гр., а штамплёвыя аплаты вызначылі ў суме 283 зл. 47 гр. Гэтая яўная несправядлівасьць у ацэнцы зроблена таму, што пакупшчыкамі горшай зямлі зьяўляюцца сяляне.

Дзеля вышэйпаказанага інтэрпэлянты пытаюцца п. Міністра:

1) Ці маніць правясьці рэвізію способу ацэнку зямлі і вызначэньня штамплёвае аплаты, наложанай на сялян Ласкоўскіх?

2) Ці маніцца зьняць несправядліва наложаныя штамплёвыя аплагы?

3) Ці маніцца паклікаць камісію знатакоў з прадстаўнікоў сялян і зацікаўленых бакоў, каб ацаніць зямлю, купленую Ласкоўскімі?

Варшава 28. XI. 25 г.

**Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя

**дэпутата П. Мятлы і таварышаў Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска - Работніцкай Грамады да пана Міністра Унутраных Спраў у справе няпраўнага заняцьця паліцыяй дому Ігната Гірэя у м. Лужках, Дзісьненскага пав.**

Заступнік Дзісьненскага Старосты п. Сухорскі наняў паліцыянтам адзін пакой у Ігната Гірэя ў м. Лужках за плату сумай, роўнай вартасьці трох пудоў жыта, месячна. Тымчасам, як у гэтым пакоі памясьцілася паліцыя, то паліцыянты самавольна бяз згоды ўласьніка дому занялі яшчэ два пакоі і кухню, плацячы І. Гірэю суму, роўную вартасьці двох пудоў жыта, за кожны пакой месячна.

Гаспадар дому не гадзіўся з гэткім станам рэчы і таму Дзісьненскае староства абдумала способ замацаваньня няпраўнай рэквізыцыі дому. Дзеля гэтага была паклікана 16.VII. 1925 г. уладай Камісія, каб вызначыць перадваенную аплату.

Гэтая камісія прызнала вялічыню аплаты з 1914 году ў суме 6 руб. месячна і аблічыла, што плата можа раўняцца 5 злотых 54 грошы месячна. Уласьнік дому І. Гірэй засьцярогся, што вымаганая плата мусіць раўняцца 40 злотым і толькі на працяг двох месяцаў, а па гэтым часе памяшчэньне мусіць быць звольнена. За гэтакую пастаноўку справы паліцыя перадала І. Гірэя ў міравы суд у Лужках, які прыгаворам 11 лістапада 1925 г. пакараў уласьніка дому на 100 зл. грашыма за нібы-жаданьне надмернай цаны за памяшчэньне.

У лучнасьці з гэтым прыгаворам камандант паліцыі пагражаў уласьніку дому арыштам, кажучы: „Калі будзеце падаваць у Акружны Суд, то будзеце пакараны арыштам“. Гэтыя словы былі сказаны пры сьведках Язэпе і Сьцяпане Мяцеліцах.

Гэты факт сьведчыць аб тым, што паліцыя зрабіла рэквізіцыю дому тады, як устаў аб абароне кватарантаў забараняе ўладзе ўсялякія новыя рэквізыцыі, і датасавала аплату, якая датычыць толькі рэквізаваных памяшчэньняў перад уваходам у жыцьцё новага ўставу аб абароне кватарантаў (1 VII. 1924 г.). Мала таго, што паліцыя бяспраўна зрэквізавала памяшчэньне, але распачала яшчэ судовую справу проці ўласьніка дому. Міравы суд у Лужках сваім неаканчальным прыгаворам выдаў пастанову, якой дамагалася паліцыя, але зусім памінуў справу бяспраўнай рэквізіцыі, якую зрабіла паліцыя насупроць уставу аб абароне кватарантаў.

Дзеля вышэйшага інтэрпэлянты пытаюцца п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці маніцца сьцерагчы ўстаў аб абароне кватарантаў і забараніць паліцыі рабіць рэквізыцыі памяшчэньняў?

2) Ці маніцца выдаць загад, каб ураз-жа звольніць памяшчэньне І. Гірэя, якое было зрэквізавана (самавольна занята) насупроць уставу аб абароне кватарантаў?

3) Ці маніцца вынаградзіць уласьніка памешканьня за ўсе шкоды і страты, выкліканыя бяспраўнай рэквізыцыяй?

Варшава 26 лістапада.

**Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 14

**дэпутаа П. Мятлы і таварышаў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў у справе адмовы распараджэньня аб абавязку нясеньня сялянамі ночнай варты на гэтак зв. „Крэсах“.**

На беларускіх землях польскай уладай уведзены прымус ночнай варты, якую мусяць несьці сяляне. Матывам увядзеньня абавязку была нібы забота аб бясьпечнасьці сялянскай маемасьці ад кражы і пажараў. Кожная вёска, большая чым шэсьць хат, мусіць выстаўляць што-ноч двох вартаўнікоў. У Заходняй Беларусі, асабліва ў Дзісьненшчыне вёскі складаюцца звычайна з 10 — 12 гаспадарак і значыць кожныя што 5 — 6 дзён кожны селянін мусіць траціць рабочы дзень, бо пасьля цэла - ночнай варты мусіць адпачыць. Апрача таго што абавязак нясеньня варты вельмі цяжкі — ён-жа зусім зусім безмэтны, бо вартаўнікі ня маюць ніякіх асаблівых паўнамоцтваў і ня могуць навет карыстацца аружжам і таму варта ня прыносіць ніякай карысьці. Доказам гэтага быў факт гэткага роду, што калі Язьненскай гм., Дзісьненскага пав. напалі злачынцы, то варта нічога з імі не магла зрабіць і ў разультаце адзін вартаўнік быў застрэлены напасьнікамі. З гэтага прымусу варты маюць карысьць толькі паліцыянты, якія, застаўшы вартаўніка ў хаце пішуць пратакол, за які чакае вартаўніка кара, або гэта служаць прычынай, каб паліцыянты маглі цягнуць ад вартаўнікоў усялякага роду матэр‘яльных хабарніцтваў, як гарэлка і іншыя прадукты. Перад вайною быў адзін ураднік на тры воласьці і два стражнікі на воласьць, якія акуратна спаўнялі свае абавязкі. Цяпер у кожнай гміне маем 16—20 паліцыянтаў з камандантам на чале. Чі-ж не магла б гэтая армія паліцыі споўніць абавязак вылоўліваньня злачынцаў, а не займацца пільнаваньнем вартаўнікоў і мучаньнем іх?

Навет ў войску вартаўнік нясе службу толькі дзьве гадзіны, а сяляне, ня ведама чаму, мусяць узімою мерзнуць 10 гадзін на марозе ўсю ноч. Прыгэтым вартаўнікі, будучы без аружжа, ня могуць устрымаць зладзейства і ня могуць абараніць грамадзян. Абавязкі гэтыя мусіць нясьці паліцыя, якая ня маючы нічога рабіць, аддаецца п‘янству і ўносіць неспакой у жыцьце сялян.

Справа аховы сялянскай маемасьці зьяўляецца справай, якая перадусім мусіць цікавіць самых сялян. Яны самы патрапяць с‘арганізаваць ахову сваіх гаспадарак ад непажаданых напасьцяў, бо паліцыя, якую гэтая ахова мала цікавіць, толкі робіць шкоду сялянам, дамагаючыся ад іх розных хабарніцтваў для сябе з прычыны абавязку нясеньня варты.

Дзеля гэтага інтэрпэлянты пытаюцца пана Міністра:

1) Ці маніцца адмяніць прымус нясеньня сялянамі ночнай варты на Беларускіх землях, які толькі служыць прычынаю для злачынстваў паліцыі?

2) Ці маніцца справу варты пакінуць вольнай, каб сяляне спаўнялі гэта, як у іх прынята?

Варшава 12. XII. 25 г.

**Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 32

**дэпутата Валошына з Беларускай Салянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Рэл. Вызн. і Публ. Асьв. ў справе ўнемагчымліваньня вучыцялём беларускай нацыі педагагічнай дзейнасьці.**

Буржуазна-капіталістычны ўрад апірае сваё панаваньне на эксплёатацыі працоўнай клясы, з няменшай заўзятасьцяй стасуе сыстэму нацыянальнага ўціску. Палітыка гэта імкнецца такім чынам аслабіць працоўную клясу, сварачы яе і дзелячы на варожыя сабе нацыяналістычныя абозы. Капіталісты і прыслугоўваючая ім буржуазія, душачы агульным ярмом працоўную клясу ўсяе Польшчы, хочуць кінуць у пралетарскія масы косьць нацыяналістычнай нязгоды, каб адвярнуць ад сябе ўвагу галоднай і эксплёатаванай ею працоўнай клясы. Беларускія землі ад часу прылучэньня іх да Польшчы зьяўляюцца прадметам гэтага агіднага экспэрымэнту.

Перадусім застасаваны замах на беларускае школьніцтва. Для віду ўхвалілі языковыя ўставы, а на практыцы—пахавалі беларускую школу. Для правядзеньня гэтага пляну застасаваны гэтакія мэтады: 1) паралізуюць волю беларускай люднасьці, якая паводле права дамагаецца адчыненьня беларускіх школ; 2) перавялі вучачых да гэтай пары ў беларускіх школах вучыцялёў у акругі Каранной Польшчы; 3) рэшце беларускіх вучыцялёў не даюць вучыцельскіх месцаў „з прычыны нястачы вольных месцаў“. А калі тэрарызаваная беларуская люднасьць пераможа стаўленыя ёй перашкоды і здабудзе вымаганую правам колькасьць бацькоўскіх дэклярацыяў, дамагаючыхся адчыненьня беларускай школы, то школьныя інспэктары адгаварваюцца... нястачай адпаведных сіл.

Вучыцялі — беларусы пераважна адданы на лёс безработных. Вось, напрыклад, адна з ахвяраў гэтага стану рэчы: п. Плятон Амяльянчык, маючы навет вышэйшыя кваліфікацыі, чым вымагаецца ад народнага вучыцеля і 11 гадоў пэдагагічнай працы. На ўсе яго стараньні аб атрыманьні школы дае адпаведная ўлада — у данным выпадку Куратарыўм Беластоцкай акругі — адмоўны адказ паводле ўцёртай ужо формуле: „з прычыны нястачы вольных мейсцаў“.

Доказам таго, што гэта ёсьць яўнае недапушчаньне вучыцялёў беларусаў да пэдагагічнай дзейнасьці, зьяўляюцца наступныя факты: пасьля 4-хгадовых стараньняў п. Амяльянчык падпісаў умову са школьныл інспэктарам Беластоцкага пав., у рэзультаце чаго мела быць яму дана школа ў в. Пчанімава. Пасьля 6-цёх тыдняў атрымаў адмоўны адказ, выясьняючы, што Міністэрства загадала „ня прыймаць новых вучыцялёў“. Аднакжа фактам зьяўляецца тое, што тады, а навет і пазьней, прыймалі ў тым жа кураторыўме новых вучыцялёў.

Ніжэйпадпісаныя пытаюцца п. Міністра Рэліг. Вызнан. і Публічнае Асьветы:

1) Ці і надалей будзе стасавацца мэтада недапушчаньня вучыцялёў беларусаў у беларускія школы?

2) Ці склонны ён загадаць, каб зацьвердзілі ўмову, падпісаную вучыцелем п. Плятонам Амяльянчыкам у беластоцкім інспэктараце народнага школьніцтва.

Варшава, 25. II. 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 37

**дэпутата Пётры Мятлы з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. п Міністраў Скарбу і Унутраных Спраў у справе душэньня падаткамі жыхароў мястэчка Язно, Дзісьненскага пав.**

Урадуючая цяпер у Польшчы большасьць вядзе палітыку па лініі і пад дыктоўку заходняга капіталізму. Рэзультатам гэтага ёсьць гэтае няўстаннае знаходжаньне ў стане гатоўнасьці вайны і надмеру ўвааружэньня. Кошты гэтага стану рэчы нясуць выключна сяляне і работнікі. Хочучы ўтрымаць у пакорнасьці і пасыўнасьці эксплёатаваныя і задушаныя сялянска - работніцкія масы ўтрымоўвае дзяржава яшчэ цэлую армію паліцыі. Разам армія і паліцыя пажырае палову дзяржаўных даходаў. Усе гэтыя цяжары мусіць аплачваць армія церпячых нуду—сялян і работнікаў. Тады, як урад даруе абшарнікам сотні тысячаў мільёнаў злотых маёнткавага падатку, калі даруе вялікім горнашленскім прамыслоўцам дзесяткі мільёнаў зацягнуўшыхся падаткаў — то малазямельнага селяніна душыць, выціскаючы апошні сок сваей падатковаю шрубаю, разграбляе ўвесь яго грашавы здабытак.

Вось прыклады: з м. Язно, Дзісьненскага пав., Віленскага ваяв. нам пішуць.

Ваенны інвалід Кастусь Ленскі, які страціў нагу падчас вайны і, як лічыць усе інваліды — беларусы, не атрымоўвае навет прызнанай цяпер інвалідзкай рэнты, пазбаўлены магчымасьці зараблянььня і адданы, дзякуючы гэтаму, з сваей сям‘ёй на галодную сьмерць. Ратуючыся ад нуды, аддаў ён 28 студзеня 1925 г. памешканьне ў сваёй хаце за 20 зл., а другія 20 зл. атрымоўвала яго жонка за абслугу, мыцьцё падлогі, праньне вопраткі, апаляньне на свой кошт адданага памешканьня і за варэньне сьняданьня, абеду і вячэры для свайго жыльца. Ад першага кастрычніка 1925 г. да цяпер атрымоўвае Ленскі за адданае памешканьне толькі 5 зл. месячна. І то за гэткія „даходы“ абдарылі гэтага нудняра гэткімі падаткамі: на скарб дзяржавы 57 зл. 60 грош. (даслоўна пяцьдзесят сем злотых і шэсьдзесят грошай) і на гміну 27 зл. 80 гр.

Жыхар гэтае-ж гміны, селянін В. Трывалка, аддаў у сваёй хаце памешканьне паліцыянту, які жыў у яго ў працягу 7 месячаў і плаціў 10 зл., а 10 зл. за апал, мыцьцё бялізны, варэньне і абслугу. З тае прычыны вызначылі Прывалцы наступны падарак: для скарбу 50 зл. і для гміны 25 зл.

Жыхар таго-ж мястэчка А. Сянькевіч аддаў у сваёй хаце памешканьне паліцыянту на працяг 10-х месяцаў за плату 6 зл. месячна і 6 зл. месячна за апал і абслугу, а праз тры месячы аддаваў гэтае-ж памешканьне за 4 зл. месячна і 4 зл. за абслугу. Вось за гэта вызначылі яму наступны падатак: 50 зл. для скарбу і 25 зл. для гміны.

Жыхар таго-ж мястэчка Ільяш Шчарбіцкі аддаў свае памешканьне на 5 месяцаў паліцыянту мясцовага пастарунку дзяржаўнай паліцыі за суму 15 зл. месячна разам з апалам, праньнем вопраткі, варэньнем і абслугай. За гэта вызначылі яму наступны падатак: для скарбу 21 зл. 80 гр. і для гміны 10 зл. 80 гр.

У І. Фідаровіча, жыхара таго-ж мястэчка Язна жыў паліцыянт мясцовага пастарунку дзяржаўнай паліцыі праз два месяцы, месьцячыся ў адным памешканьні разам з гаспадаром і яго сям‘ёй, за што заплаціў яму 20 зл. За гэта пры-

слалі Фідаровічу два „nakazy płatnicze“, адзін з іх на 21 зл., а другі аблічаны ад 120 зл. гадавога даходу.

У жыхара таго-ж мястэчка А. Аляксандровіча жыў паліцыянт мясцовага пастарунку дзяржаўнай паліцыі ў працягу аднаго месяцу, заплаціў яму за гэта 10 зл. Гмінны ўрад вызначыў яму за гэта падатак у суме 21 зл.

Усе вышэй памянутыя жыхары м. Язно падалі ў сваім часе скаргу проці вызначаных гэтых ім падаткаў, дацяпер, аднак, не атрымалі адказу.

Дзеля гэтага ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці склонны ён загадаць Язьненскай гм. забраць назад „nakazy płatnicze“ празначаныя да жыхароў тае-ж гміны: Каст. Ленскага, В. Прывалкі, А. Сянкевіча, Ільяша Шчарбіцкага, І. Фідаровіча і А. Аляксандровіча?

і пана Міністра Скарбу:

1) Ці склонны ён выдаць адпаведны загад падуладным яму падатковым інстанцыям „Izby Skarbowej“ у Глыбокім, каб скасавалі яны бяспраўны разьмер падатку вышэй памянутым жыхарам м. Язно.

2) Ці і які загад склонны ён выдаць, каб абкелзаць самаволю падатковых інстанцыяў, аграбляючых апошні кусок хлеба ў церпячых нуду?

Варшава 22. III. 26 г. **Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 39

**дэпутата Рака-Міхайлоўскага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Рэліг. Вызнаньняў і Публічнай Асьветы і п. Міністра Унутраных Спраў у справе нячуванага факту разабраньня будынку беларускае школы ў в. Збляны, Лідзкага пав. і перанясеньня яго ў м. Бяліцу.**

Нацыянальны ўціск, стасованы да г. зв. нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, б'е з асаблівай заядласьцяй беларускую люднасьць. Акт гэты напраўлены перадусім проці беларускага школьніцтва. Не адчыняюць беларускіх школ, хоць беларуская люднасьць дамагаецца іх на падставе „языковых законаў“. Тыя беларускія школы, якія ўтрымаліся да гэтай пары, замяшчаюцца двуязычнымі. Вучыцялі — беларусы пад рознымі прычынамі выкідаюцца са службы, а часьць іх працуе ў Каранной Польшчы. Дайшло ўжо навет да таго, што разьбіраюцца і перавозяцца ў іншую мясцовасьць школьныя будынкі. Усё гэта мае мэтаю тармазіць асьвету ў беларускай вёсцы і змагацца з нацыянальным беларускім школьніцтвам.

Вось які здарыўся выпадак у в. Збляны, Лідзкага пав.

Яшчэ за часоў расейскіх цароў была ў гэтай вёсцы народная школа, будынак якой спаліўся перад самым выбухам сусьветнай вайны. У 1914 г. выплацілі за школу страховачную суму, а люднасьць в. Збляны вяла энэргічную складковую акцыю, дзякуючы чаму ўжо ў 1915 г. стаў новы вялікі школьны будынак.

Гэтая забота аб сваю школу з боку беларускіх сялян была сольлю ў вачу польскай школьнай улады. Таму то проці волі люднасьці замянілі да тае пары беларускую школу на двуязычную. На весну мінулага году жыхары Зблянава, карыстаючыся з „языковых уставаў“, зажадалі вучэньня пабеларуску і няўхільна стаялі на сваім, ня гледзячы на стараньні школьнага інспэктара ў Лідзе, які імкнуўся зьмяніць пастанову люднасьці. У адказ на гэта ўлада пастанавіла пазбавіць гміну яе школьнага будынку. Паразумеўшыся школьная ўлада з адміністрацыйнай, пастанавіла проці волі і ня гледзячы на пратэсты люднасьці вёскі Збляны, разабраць вышэй памянуты школьны будынак і перанясьці яго ў м. Бяліцу. Акцыя гэта ўжо ў поўным ходзе.

Факт гэты навет з пункту гледжаньня фармальнага права разыходзіцца з найменшымі засадамі справядлівасьці. А што тычыцца ўдзелу ў гэтым „прадпрыемстве“ адпаведнай школьнай улады, то гэта яшчэ адзін шаг (гэтым разам вельмі сьмелы) ў агульнай акцыі проці беларускага школьніцтва.

Дзеля вышэй сказанага ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра Рэл. Вызнан. і Публічнае Асьветы:

1) Ці склонны ён выдаць адпаведны загад, каб ураз-жа затрымаць акцыю разьбіраньня школьнага будынку ў в. Збляны і пераношаньня яго ў м. Бяліцу.

2) Ці склонны ён загадаць ураз-жа суровае сьледзтва ў гэтай справе і пацягнуць да адказнасьці віноўнікаў гэтага дзікага факту?

3) Ці і які загад маніцца выдаць, каб на прышласьць унемагчыміць стасаваньне гэтакіх нячуваных метадаў барацьбы з беларускім школьніцтвам?

і п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці склонны ён пацягнуць да адказнасьці адпаведную самаўрадавую і адміністрацыйную ўладу за удзел у вышэй апісаным бяспраўі?

2) Ці і які загад маніцца выдаць, каб выкараніць сабатаж і тэрор адміністрацыйна-палітычнай улады ў адносінах да беларускага школьніцтва?

Варшава 25. III. 26 г. **Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 38

**паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і таварышаў да п. Міністра Земляробства і Дзяржаўных багацьцяў у справе перасьледаваньня сялян з в. Шундры, Слонімскага пав. упраўленьнем Шчарскага лясьніцтва ў дзяржаўных лясох.**

Сялянская кляса зьяўляецца прадметам вызыску і ўціску ня толькі беспасярэдняга свайго прыгнятацеля—абшарніка, але таксама і дзяржаўных органаў, якія стараюцца стасаваць да сялян фэадальна - прыгонную сыстэму. Беларуская люднасьць церпіць яшчэ жорсткшы і большы ўціск, бо на землях Заходняй Беларусі ад часу заняцьця яе польскаю ўладаю гуляе распасаны тэрор і самаволя, як абшарнікаў, так дзяржаўнай улады.

Вось, што нам пішуць з в. Шундры, Дзеравенскай гм., Слонімскага пав.

Ужо пяць гадоў, як „урадуюць“ у Слонімскім надлясьніцтве дзяржаўных лясоў паны Каліноўскі і Металёўскі. Урадаваньне гэтае выражаецца паміж іншым тым, што на дзяржаўны лес заглядаюцца гэтыя паны, як на абшар для спэкуляцыі на свой асабісты рахунак, а вакалічных сялян уважаюць за свіх нявольнікаў, абавязаных бясплатна ім служыць, абрабляць ім поле, касіць ім балота і г. д. Стэрарызаваныя гэтым лясным кацыкам сяляне выконвалі накінутую ім паншчыну, а ў канцы канцоў адмовіліся. У адказ на гэтае ўпраўленьне Слонімскага надлясьніцтва засыпае сялян з в. Шундры „nakazami płatniczymi“ на значныя сумы за нібы пашу ў дзяржаўных лясох.

Гэтыя „nakazy“ знаходзіць п. Каліноўскі з надзвычайнай хуткасьцяй, абыходзячы навет усялякія фармальнасьці і ў такой імпануючай колькасьці, што засыпае імі кампletне люднасьць в. Шундры, якая пасьмела адмовіць яму выконваць паншчыну. Здараецца навет, што гэтакі „nakaz płatniczy“ атрымоўваюць гаспадары, якія зусім ня маюць жывёлы, як гэта было з Дзьмітрам Шундрыкам—жыхарам гэтае-ж гміны.

Аб ступені мсьцівай злоснасьці гэтага ляснога кацыка сьведчыць напр. гэтакі факт: летам мінулага году прышоў п. Каліноўскі на гміннае пасьвішча, на якім пасьвілася стада рагатага быдла жыхароў в. Шундры. Выстрэлам з рэвальрэру разагнаў пільнуючых быдла пастухоў і загнаў тады ўсё стада ў лес. Потым напісаў пратакол, абвінавачваючы ўласьнікаў загнанага ім ў лес быдла за няпраўнае пасьценьне ў лесе.

Дзеля вышэй сказанага ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра Земляробства і Дзяржаўных багацьцяў:

1) Ці ведама яму мэтады ўпраўленьня, практыкованыя ў Слонімскім надлясьніцтве дзяржаўных лясоў.

2) Ці і які загад маніцца выдаць, каб расьследаваць аб дзейнасьці лясьнічага Каліноўскага, пацягнуць яго да адказнасьці за надужыцьці і крыўды, зробленыя сялянам з в. Шундры.

Варшава, сакавік 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 44

**дэпутата Валошына з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. п. Міністраў Унутраных Спраў і Справядлівасьці ў справе бяспраўнага трыманьня ў вастрозе Антона Сіцько, уміраючага ад паліцэйскіх мукаў і катаваньняў.**

Адміністрацыйна-паліцэйская ўлада на землях Заходняй Беларусі стасуе да люднасьці дзікі тэрор. Вось яшчэ адна крывавая старонка з гісторыі мучаніцтва беларускай люднасьці — пісьмо палітычнага вязьня Антона Сіцько з Малой Бераставіцы, Горадзенскага пав., які ўмірае павольнай сьмерцяй у вастрозе ад катаваньняў паліцыі ў часе „badánia“:

„Арыштавалі мяне 9-га ліпня 1925 г. Адначасна паліцыя зрабіла дакладны вобыск у маім памешканьні, вобыск ня даў ніякіх абцяжваючых матэрыялаў. Потым адвязьлі мяне, закутага ў кайданы, на пастарунак дзярж. пал. ў Вялікай Бераставіцы, дзе сьпісалі пратакол і зажадалі выясьненьняў аб дзейнасьці камуністычнай партыі. Дзеля таго, што не зьяўляюся сябром гэтай партыі і ніколі нічога ня меў супольнага з яе дзейнасьцяй, — ня мог даць ніякіх інфармацыяў аб ёй. Тады адаслалі мяне на пастарунак дзярж. пал. ў Сьвіслачы, прычым перасыланьне гэтае адбылося гэтак: ляжаў я наўзнак на возе, а рукі мне прыкавалі ланцугамі да дзьвёх процілеглых драбінаў воза. Сьвіслач ад Вял. Бераставіцы знаходзіцца ў 45 вярстох. У Сьвіслачы зажадалі ад мяне паказаньняў аб якімсьці сходзе, аб якім аднак я нічога ня ведаў і ні ад кога нічога ніколі ня чуў. Не атрымаўшы ніякага адказу, пачалі мяне дзіка біць і катаваць, упярод агэнт тайнай паліцыі Махура ўдэрыў мяне так моцна ў галаву, што зваліўся я на зямлю. Потым зьнялі ў мяне абуцьце з ног, пералажылі мне локці праз паложаны на плячах кол, сагнулі ногі ў каленях і прыкавалі іх да рук. Тады накінулі мне на голаву якісьць кажух, хтосьць з функцыянэраў сеў мне на грудзі і пачалі біць калом у пяты. Білі тры функцыянэры на зьмену, прычым атрымаў я 60 удараў, потым улілі мне праз нос бутэльку вады. Пасьля раскуцьця паставілі мяне босымі нагамі на залітай вадою подлозе і вымагалі, каб паўтараў я паказаньні паводле дыктоўкі паліцыі. Дзеля таго, што я адмовіўся, пачаў зноў мяне біць той самы агэнт Махура калом па шыі. Ня могучы болей зносіць гэтага катаваньня, я згадзіўся падпісаць прыгатаваны паліцыяй пратакол, са зьместам якога навет і не пазнаёмілі мяне. Гэтак скончылася „badanie“ і пратакол на пастарунку дзярж. пал. ў Сьвіслачы.

Пасьля гэтага катаваньня я так быў хворы і аслаблены, што 4 дні ляжаў чуць жывы там-жа на пастарунку і паліцыя была змушана перарваць усялякае „badanie“. Потым перавязьлі мяне скутага ў Ваўкавыскую экспозытуру, дзе пытаў мяне сьледавацель у прысутнасьці каманданта пастарунку дзярж. паліцыі.

Перавязьлі мяне ў Горадзенскі вастрог, дзе сядзеў я каля 2 месяцаў. 21 верасьня ўкінулі мяне ў цёмную лёху. Пасьля двох дзён перавязьлі мяне аўтамабілем да памешканьня старосты, дзе зноў выпытвалі мяне аб якойсьць няведамай мне арганізацыі. Якісьці няведамы мне паліцыянт намаўляў мяне, каб абвінаваціў я ў гэтай справе якога-нібудзь жыда. Ня мог нічога сказаць, бо нічога ня ведаў аб гэтай справе.

Тады ўсадзілі мяне ізноў у аўтамабіль, у які сеў таксама і горадзенскі стараста, і адвязьлі на пастарунак дзяржаўнай паліц. ў М. Бераставіцы. Да вечара пакінулі мяне ў спакоі. Увечары пазачынялі акяньніцы, паставілі стражу кругом пастарунку і пачалі мяне „бадаць“. Зноў зажадалі ад мяне, каб сцьвердзіў, што належу да камуністычнай партыі. Калі адмовіўся — пачалі катаваць. Катаваньне гэтае цягнулася цэлую ноч. Скутага і зьвязанага білі мяне ў пяты, білі нагамі, а адзін з катаваўшых скочыў мне на грудзі і таптаў мяне нагамі. Пасьля білі мяне калом па галаве, грудзёх і плячах, убівалі шпількі мне пад ногці, так што ад болі самлеў. Калі ляжаў напаўабамлелы, адзін з паліцыянтаў так моцна ўдэрыў мяне ботам у твар, што выбіў мне зуб. Потым страціў я прытомнасьць, і прачхнуўся толькі на другі дзень у палудзень. Ляжаў я ў кухні гэтага пастарунку, каля мяне сядзеў адзін з маіх начных катаў і абціраў сьпіртам мае раны і ўліваў мне сьпірт у рот. Каля мяне стаялі ужо дзьве пустыя бутэлькі. Мучыўся я страшэнна і прасіў, каб паклікалі доктара. Просьбы мае ня споўнілі. Ляжаў я хворы і вельмі мучачыся ў кухні цэлы тыдзень. Праз тыдзень толькі прывязьлі доктара з Крынак, які мяне агледзеў.

У той жа дзень прыехаў горадзенскі староста і абяцаў мне вольнасьць пад варункам, што я падпішу сфабрыкаваны паліцыяй пратакол. — Я адмовіўся. Адаслалі мяне ў вастрог да Горадні. Спачатку памясьцілі ў агульнай камэры, так што мой цяжкі стан і зробленыя мне раны бачылі вязьні: Янка Яковчыг, Даніла Ранецкі, Антон Самойла, Антон Семяняка, Пётра Чаплюк. Потым перанесьлі мяне ў пустую камэру. Так я быў хворы, што сторож спытаў мяне, ці паклікаць мне бацюшку. Прасіў я, каб паклікалі доктара. Зараз мяне агледзелі, перавязалі,—у той камэры праляжаў я адны суткі. Пры мне, хворым, быў Уладзімір Леванчук. Потым перанясьлі мяне ў вастрожную бальніцу. Быў цяжка хворы і бязуладны, так, што праз два тыдні мусіў мяне даглядаць, карміць, варочаць з боку на бок сторож Тодар Ярамейчык. Пасля 36 дзён перанясьлі мяне зноў у вастрог, паміма таго, што быў хворы і ня мог хадзіць, маючы параненыя ногі. Чуюся блізка сьмерці“.

**Антон Сіцько.**

Падпісаныя пытаюцца ў пана Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці склонны ён ураз-жа загадаць жорсткае сьледзтва ў гэтай справе?

2) Ці маніцца падрабязна выясьніць факт беспасярэдняга ўдзелу Горадзенскага Старосты ў катаваньні Антона Сіцька?

3) Ці віноўныя дзікага катаваньня будуць зволньнены з займаных імі становішчаў і пацягнуты да карнай адказнасьці?

і пана Міністра Справядлівасьці:

1) Ці склонны ён пацягнуць да адказнасьці сьледавацеля з Ваўкавыска, які зьбіраў выясьненьні ў Антона Сіцька ў прысутнасьці паліцыі?

2) Ці ўважае магчымым трымаць у вастрозе хворага — лічыць, уміраючага — чалавека?

Варшава, 25. III. 26.

**Інтэрпэлянты.**

Выдавец:

Соймавы Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

Друкарня Н. Левін і Сын Вільня, Нямецкая вул. 22.

w Wilnie
im. Wróblewskich